шляхам паступовага, эвалюцыйнага руху наперад, заснаванага на палітычнай і сацыяльна-эканамічнай стабільнасці грамадства. Убудоўванне беларускай эканомікі ў сістэму сусветных гаспадарчых сувязей пад кантролем грамадства і дзяржавы, падтрыманне навуковага патэнцыялу».

****2. Вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь за 2001—2005 гг. (%)**

| Прыкметы для параўнання | Праграмныя паказчыкі | Выкананне | Паказчыкі | |
|---|---|---|---|---|
| | | | 1990 г. | Рост у 2005 г. у параўнанні з 1995 г. |
| Валавы ўнутраны прадукт | 135—140 | 143,1 | 127 | 1,9 раза |
| Прадукцыя прамысловасці | 128—132 | 151,8 | 153 | 2,5 раза |
| Прадукцыя сельскай гаспадаркі | 122—128 | 125,7 | 90 | 1,2 раза |
| Вытворчасць спажывецкіх тавараў | 142—147 | 150,4 | 166 | 2,8 раза |
| Рэальныя грашовыя даходы насельніцтва | 158—163 | 176,7 | 175 | 3,4 раза |
| Рэальная заработная плата | 180—185 | 207,0 | 195 | 3,5 раза |

****3. З даклада Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі на трэцім Усебеларускім народным сходзе. 2 сакавіка 2006 г.**

«Упершыню за шматвяковую гісторыю наш народ стварыў суверэнную дзяржаву — Рэспубліку Беларусь. Сёння наш суверэнітэт — рэальны фактар сусветнай палітыкі...

Мы змаглі зрабіць нашу краіну не толькі суверэннай, але і эканамічна незалежнай...

Сёння мы жывем у стабільнай, шчаслівай, цывілізаванай краіне. У нас моцная эканоміка, развітыя навука і культура, адна з лепшых у свеце сістэма адукацыі. Поўнасцю забяспечана нацыянальная бяспека...

Мы павінны імкнуцца да таго, каб праз пяць гадоў якасць жыцця нашых грамадзян давесці да ўзроўню, параўнальнага з заходнееўрапейскім...

Каб дасягнуць пастаўленай мэты, нам неабходна навучыцца выкарыстоўваць больш дзейсныя падыходы, імкнуцца да больш высокага ўзроўню арганізацыі ўсёй нашай дзейнасці...

Мы ўжо шмат што зрабілі і маем права гэтым ганарыцца. Вынікі апошніх гадоў даказалі эфектыўнасць выкарыстання беларускай мадэлі для пераходнага перыяду развіцця дзяржавы».

*Вызначце, у чым заключаюцца прыкметы сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі.*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Дайце азначэнні наступных паняццяў: *прыватызацыя, рыначная сістэма эканамічных адносін, інтэграцыя.*
2. Чаму пасля распаду СССР эканоміка Беларусі апынулася ў цяжкім становішчы?
3. Назавіце мерапрыемствы, звязаныя з пошукам шляхоў пераходу да рыначнай эканомікі ў пачатку 1990-х гг.
4. Пералічыце працоўныя дасягненні, арганізатары і ўдзельнікі якіх былі ўдастоены звання Героя Беларусі.
5. У чым заключаецца сутнасць беларускай мадэлі сацыяльна-эканамічнага развіцця? Пры адказе выкарыстайце дадатковы матэрыял.
6. Раскажыце аб асноўных кірунках і выніках рэалізацыі беларускай мадэлі сацыяльна-эканамічнага развіцця ў другой палове 1990-х гг. — пачатку XXI ст. у Рэспубліцы Беларусь. Выкарыстайце картасхему на с. 142 вучэбнага дапаможніка.
7. Раскажыце аб дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы.

8. Папрацуйце па метадзе ключавога слова са зместам абзаца, які пачынаецца словамі «Спыніць такія праявы эканамічнага крызісу...».

9. Выкажыце свае адносіны да перспектыў развіцця нашай краіны ва ўмовах пераходу да фарміравання інфармацыйнага грамадства.

# § 23—24. Рэспубліка Беларусь у сусветным супольніцтве

ВУЧЭБНАЯ ЗАДАЧА

*Вызначыць асноўныя прынцыпы і кірункі знешнепалітычнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь на мяжы XX—XXI стст.*

**Успомніце**

Якой была роля БССР у заснаванні і дзейнасці ААН?

**Фарміраванне знешнепалітычнага курсу Рэспублікі Беларусь.** Набыццё суверэнітэту абумовіла пачатак новага этапу ў знешнепалітычнай і міжнароднай дзейнасці Беларусі. У Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, прынятай 27 ліпеня 1990 г. Вярхоўным Саветам БССР, за беларускім народам было замацавана неад'емнае права на самавызначэнне. Дэкларацыя абвясціла рэспубліку раўнапраўным і незалежным членам сусветнага супольніцтва. Калі ў жніўні 1991 г. Дэкларацыя набыла канстытуцыйны статус, Беларусь стала ажыццяўляць самастойную знешнюю палітыку.

Наша рэспубліка імкнецца стаць бяз'ядзернай зонай і *нейтральнай дзяржавай*. Знешнепалітычны курс такой краіны характарызуецца няўдзелам у аб'яднаннях і ва ўзброеных канфліктах (войнах).

Рэспубліка Беларусь улічвае рэкамендацыі «Парадку дня на XXI стагоддзе» — дакумента, прынятага ААН у 1992 г. У ім прадугледжваецца праграма сусветнага супрацоўніцтва з мэтай гарманізацыі ўзаемаадносін паміж чалавекам і прыродай. Наша краіна атрымала міжнародную дапамогу па лініі

ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

Важнай падзеяй у міжнароднай палітыцы стаў пераход рэспублікі да статусу бяз'ядзернай і нейтральнай дзяржавы. Беларусь далучылася таксама да Дагавора аб звычайных узброеных сілах у Еўропе, які рэгулюе іх колькасць і размяшчэнне. У 1992 г. Беларусь падпісала Хельсінкскі заключны акт Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе. Парламент зацвердзіў Дагавор аб скарачэнні і абмежаванні стратэгічных наступальных узбраенняў. Рэспубліка Беларусь далучылася да Міжнароднага дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі. У выніку ўся ядзерная зброя, якая размяшчалася раней на тэрыторыі Беларусі, была выведзена за яе межы. Беларусь разам з Украінай сталі першымі ў свеце дзяржавамі, якія добраахвотна адмовіліся ад валодання ядзернай зброяй, сталі ўдзельніцамі Міжнароднага дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі.

ААН, якая прыняла спецыяльную рэзалюцыю «Міжнароднае супрацоўніцтва ў справе змякчэння і пераадолення наступстваў аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі». Ад імя беларускага народа Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь выказаў усім краінам — членам ААН глыбокую ўдзячнасць за аказаную дапамогу.

Асноўнымі прыярытэтамі знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь на міжнароднай арэне з'яўляюцца: інтэграцыя ў сусветнае супольніцтва як раўнапраўнай, суверэннай, незалежнай дзяржавы; усемагчымае садзеянне будаўніцтву новай сусветнай і еўрапейскай сістэмы бяспекі; шматбаковае міжнароднае супрацоўніцтва; актыўны ўдзел у рабоце міжнародных арганізацый, перш за ўсё ў сістэме Арганізацыі Аб'яднаных На-

ГІСТАРЫЧНЫ ДАКУМЕНТ

«У маральнай і матэрыяльнай падтрымцы, — гаворыцца ў заяве Вярхоўнага Савета, — мы бачым глыбокі сэнс, праяўленне новага палітычнага мыслення, зацвярджэнне ўзаемадзеяння паміж дзяржавамі на аснове агульначалавечых каштоўнасцей і гуманістычных прынцыпаў, умацаванне духу партнёрства і развіцця новых формаў міжнароднага супрацоўніцтва».

ГІСТАРЫЧНЫ ДАКУМЕНТ

Артыкул 18-ы Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь: «Рэспубліка Беларусь у сваёй знешняй палітыцы зыходзіць з прынцыпаў роўнасці дзяржаў, непрымянення сілы або пагрозы сілай, непарушнасці межаў, мірнага ўрэгулявання спрэчак, неўмяшання ва ўнутраныя справы і іншых агульнапрызнаных прынцыпаў і нормаў міжнароднага права…»

цый. Асноўныя прынцыпы знешняй палітыкі былі замацаваны ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. са зяменнямі і дапаўненнямі, прынятымі на рэферэндуме 24 лістапада 1996 г.

Амаль усе краіны свету прызналі Рэспубліку Беларусь як незалежную дзяржаву і ўстанавілі з ёй дыпламатычныя адносіны. Сведчаннем трываласці міжнароднага становішча нашай рэспублікі ўжо з першых гадоў незалежнасці стала членства ў міжнародных арганізацыях. Беларусь — паўнапраўны ўдзельнік Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе, член Міжнароднага валютнага фонду. Беларусь з самага пачатку сваёй знешнепалітычнай дзейнасці пацвердзіла прыхільнасць да прынцыпаў Статута ААН і Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Умацавалася яе становішча ў ААН.

**Прыярытэты знешнепалітычнага курсу Рэспублікі Беларусь.** З самага пачатку, праводзячы шматвектарны знешнепалітычны курс, Рэспубліка Беларусь асаблівую ўвагу надава-

ГІСТАРЫЧНЫ ДАКУМЕНТ

На пасяджэнні сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у 2005 г. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка адзначыў: «ААН — гэта мы. Менавіта мы з вамі павінны ўзяць лёс планеты ў свае рукі. Мы з вамі павінны зразумець, што аднапалярны свет — гэта свет адналінейны. Больш таго — аднамерны. Мы з вамі павінны ўсвядоміць: разнастайнасць шляхоў да прагрэсу — сталая каштоўнасць нашай цывілізацыі. Толькі яна забяспечвае стабільнасць у свеце. Свабода выбару шляху развіцця — галоўная ўмова дэмакратычнага ўладкавання свету. Дзеля гэтага і стваралася наша Арганізацыя. …Калі мы пагодзімся адзін з адным у гэтым, галоўным, то мы ажыццявім прынцыпы шматпалярнасці, разнастайнасці, свабоды выбару… Тады і ААН стане арганізацыяй па-сапраўднаму аб’яднаных нацый…»

ла ўмацаванню адносін з краінамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Яна ўдзельнічала ў стварэнні і дзейнасці адпаведных органаў па супрацоўніцтве паміж дзяржавамі СНД. Аднак Садружнасць у гэтыя гады яшчэ не сфарміравалася як моцнае міждзяржаўнае ўтварэнне.

З сярэдзіны 1990-х гг. прыярытэтным кірункам і асновай нашай знешняй палітыкі стала аднаўленне на раўнапраўнай і ўзаемавыгаднай аснове сувязей з дзяржавамі, якія раней уваходзілі ў склад СССР, найперш з Расіяй і Украінай (**). Развіццю гэтых адносін спрыялі рэгулярныя сустрэчы прэзідэнтаў Беларусі, Расіі, Украіны і іншых краін — удзельніц СНД. З 1996 г. дзейнічае дагавор «Аб мытным саюзе», які павінен спрыяць эканамічнай інтэграцыі краін СНД. Гэта ідэя знайшла падтрымку на сустрэчы прэзідэнтаў і кіраўнікоў краін СНД у Маскве ў 2000 г. Была вызначана задача паглыблення эканамічнай інтэграцыі паміж Беларуссю, Расіяй, Украінай і Казахстанам. У 2003 г. кіраўнікі гэтых дзяржаў падпісалі Заяву аб фарміраванні Адзінай эканамічнай прасторы і стварэнні Арганізацыі рэгіянальнай інтэграцыі.

У 2000 г. кіраўнікі пяці дзяржаў (Беларусь, Казахстан, Кыргызстан, Расія і Таджыкістан) заснавалі новае інтэграцыйнае аб'яднанне — Еўразійскае эканамічнае супольніцтва (ЕўрАзЭС). У 2006 г. да яго далучыўся Узбекістан, было прынята рашэнне аб стварэнні Мытнага саюза.




*Сустрэча кіраўнікоў дзяржаў — удзельніц ЕўрАзЭС і АДКБ у г. Мінску 23 чэрвеня 2006 г.*

Асаблівае месца займаюць узаемаадносіны паміж Беларуссю і Расіяй. На шляху яднання двух народаў і краін пройдзена шмат этапаў. Іх пачаткам стала падпісанне ў 1995 г. Дагавора аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве Беларусі і Расіі. У маі 1995 г. на рэспубліканскім рэферэндуме большасць беларускіх выбаршчыкаў выказалася за паглыбленне інтэграцыі з Расіяй. Насельніцтвам Беларусі быў падтрыманы курс на паступовае збліжэнне і выраўноўванне ўзроўняў эканамічнага развіцця краін.

Далейшаму паглыбленню адносін паміж Беларуссю і Расіяй паспрыяў падпісаны **2 красавіка 1996 г.** Дагавор аб стварэнні Супольнасці Беларусі і Расіі. Важным крокам на шляху да ўсебаковай інтэграцыі дзвюх краін стала стварэнне Саюза Беларусі і Расіі, дагавор аб якім быў падпісаны **2 красавіка 1997 г.** Гэты дзень абвешчаны Днём яднання народаў Беларусі і Расіі. Працэс збліжэння Беларусі і Расіі быў прадоўжаны ў снежні 1998 г., калі ў Маскве адбылося падпісанне прэзідэнтамі абедзвюх краін Дэкларацыі аб далейшым яднанні Беларусі і Расіі, дагавора аб роўных правах грамадзян і пагаднення аб стварэнні роўных умоў суб'ектам гаспадарання дзвюх краін. Чарговым этапам у працэсе збліжэння Беларусі і Расіі стаў падпісаны **8 снежня 1999 г.** Дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы.

| **Развіццё інтэграцыйнага працэсу паміж Беларуссю і Расіяй** |
|---|
| • Стварэнне Супольнасці Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі — 2 красавіка 1996 г. |
| • Стварэнне Саюза Беларусі і Расіі — 2 красавіка 1997 г. |
| • Дагавор паміж Беларуссю і Расіяй аб стварэнні Саюзнай дзяржавы — 8 снежня 1999 г. |

Шлях стварэння Саюзнай дзяржавы аказаўся няпростым. Але гэты працэс аб'ектыўны і адпавядае інтарэсам двух братніх народаў. Таму ўзаемапрымальныя варыянты аб'яднання будуць знойдзены, а галоўнай праблемай у 2002—2005 гг. стала наладжванне дзейнасці Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі, які зацвярджае гадавыя бюджэты Саюза і распрацоўвае Канстытуцыю Саюза Беларусі і Расіі. Пры гэтым беларуска-расійскае міждзяржаўнае аб'яднанне грунтуецца на прын-

цыпах суверэннай роўнасці дзяржаў-удзельніц, добраахвотнасці, добрасумленнага выканання ўзаемных абавязацельстваў.

**Шматвектарнасць знешняй палітыкі Беларусі.** Рэспубліка Беларусь прытрымліваецца шматвектарнага знешнепалітычнага курсу. У 1995—1996 гг. развіццю і ўмацаванню сувязей з далёкім замежжам садзейнічалі афіцыйныя і рабочыя візіты Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у ЗША, Францыю і іншыя краіны. У працэсе паездак былі абмеркаваны праблемы эканамічнага і палітычнага супрацоўніцтва, барацьбы са злачыннасцю, пераадолення наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У 1996 і 1999 гг. Прэзідэнт нашай рэспублікі прыняў удзел у сустрэчах кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін — удзельніц Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ).

Беларусь у 1995 г. далучылася да праграмы НАТО «Партнёрства дзеля міру». У 1998 г. пачала работу місія Рэспублікі Беларусь пры НАТО. Наша краіна не выступае супраць уключэння ў НАТО новых членаў, у тым ліку нашых суседзяў — Польшчы і Прыбалтыйскіх рэспублік, але настойвае на неабходнасці рэфармавання гэтай арганізацыі.

*У памяць чарнобыльскай трагедыі ў Мінск прывезены помнік з японскіх гарадоў Хірасіма і Нагасакі, якія перажылі атамную бамбардзіроўку, і ўстаноўлены перад касцёлам святых Сымона і Алены. Звон у чорнай арцы нагадвае, што гэтая трагедыя не павінна забывацца*



ГІСТАРЫЧНЫ ДАКУМЕНТ

На ўрачыстым пасяджэнні сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у 1995 г. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка зазначыў:
«Галоўнае — не дапусціць новага расколу свету. У сувязі з гэтым мы лічым, што пашырэнне НАТО тоіць у сабе непрадказальныя вынікі для будучыні Еўропы…
Я цвёрда перакананы, што на парозе трэцяга тысячагоддзя трэба думаць не аб пашырэнні ваенна-палітычных саюзаў, не аб размяшчэнні ядзернай зброі і не аб павелічэнні ваенных арсеналаў. Наадварот, мы павінны імкнуцца ліквідаваць саму магчымасць узнікнення войнаў, паменшыць або наогул знішчыць запасы ядзернай зброі…»

Пасля правядзення рэферэндуму 1996 г. палітычныя адносіны Беларусі з Захадам ускладніліся. У 1997 г. міністры замежных спраў краін Еўрапейскага Саюза прынялі рашэнне аб «замарожванні» кантактаў з Беларуссю на палітычным узроўні. Але праграмы эканамічнага супрацоўніцтва з Рэспублікай Беларусь прадоўжыліся. Кіраўніцтва нашай краіны адстойвала дзяржаўны суверэнітэт краіны, зыходзячы з таго, што кожная дзяржава ва ўмовах фарміравання шматполюснага свету мае права заняць у ім адпаведнае месца. У ліку галоўных задач знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь — фарміраванне на новай аснове адносін з дзяржавамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Наша краіна супрацоўнічае таксама з краінамі Азіяцка-Ціхаакіянскага рэгіёна, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі.

Пашыраюцца кантакты нашай рэспублікі з міжнароднымі арганізацыямі. Найважнейшым кірункам знешнепалітычнай дзейнасці застаецца супрацоўніцтва Рэспублікі Беларусь з такімі аўтарытэтнымі ў свеце арганізацыямі, як Савет Еўропы, а таксама Еўрапейскі Саюз, у які ў 2004 г. увайшлі нашы суседзі — Прыбалтыйскія рэспублікі і Польшча. Удзел Беларусі ў рабоце міжнародных арганізацый спрыяе далучэнню нашай краіны да працэсу *глабалізацыі* — утварэння сусветнага рынку капіталаў, тавараў, паслуг, інфармацыі, усталявання сусветных сувязей у эканамічнай, палітычнай, культурнай галінах ва ўмовах фарміравання постіндустрыяльнага (інфармацыйнага) грамадства.

Падзеі 11 верасня 2001 г. у Нью-Йорку прывялі да актывізацыі міжнароднай дзейнасці, накіраванай на барацьбу з тэрарызмам. У яе ўключыліся Беларусь, Расія, Казахстан, Кыргызстан, Таджыкістан, Арменія.

**Развіццё міжнароднага эканамічнага супрацоўніцтва Рэспублікі Беларусь.** Знешнеэканамічныя сувязі Беларусі як суверэннай дзяржавы набылі якасна новы характар. У складзе СССР яна толькі пастаўляла прадукцыю на знешні рынак, а сам гандаль ажыццяўляўся саюзнымі ўстановамі. Атрымаўшы незалежнасць, Рэспубліка Беларусь стала раўнапраўным партнёрам у міжнародным эканамічным супрацоўніцтве. Перад ёй паўстала задача ўтварэння спрыяльных знешніх умоў для эфектыўнай інтэграцыі беларускай эканомікі ў сусветную гаспадарку.

Аднак на шляху вырашэння гэтай задачы ўзнікла і шмат цяжкасцей. Перш за ўсё наладжваць эканамічнае супрацоўніцтва на постсавецкай прасторы даводзілася ва ўмовах эканамічнага крызісу, выкліканага распадам СССР. Акрамя таго, з-за тэхнічнага адставання прадпрыемстваў рэспублікі іх прадукцыя ў большасці была неканкурэнтаздольнай на знешнім рынку. Становішча ўскладнялася жорсткай залежнасцю Беларусі ад паставак энерганосьбітаў і сыравінных рэсурсаў, недахопам фінансавых сродкаў.

У той жа час Беларусь мае спрыяльнае геаграфічнае становішча ў цэнтры Еўропы і высокакваліфікаваных спецыялістаў. Абапіраючыся на гэтыя перавагі, наша рэспубліка імкнулася пашырыць гандлёвыя сувязі з краінамі далёкага замежжа. У пачатку 1990-х гг. 70 % усяго знешняга гандлю нашай рэспублікі прыходзілася на еўрапейскія дзяржавы, перш за ўсё Германію. Больш за ўсё вывозілася ў заходнія краіны трактароў, халадзільнікаў, матацыклаў, калійных угнаенняў, бавоўняных тканін. На мяжы XX і XXI стст. Беларусь падтрымлівае гандлёва-эканамічныя зносіны амаль са 140 дзяржавамі за межамі СНД. Вядучымі гандлёва-эканамічнымі партнёрамі Беларусі з'яўляюцца Расія, Германія, Украіна, Польшча, Латвія, Літва, Італія, Кітай.

Важнае месца ў знешнеэканамічнай дзейнасці належала ўтварэнню сумесных з замежнымі фірмамі прадпрыемстваў. Вядомасць у нашай рэспубліцы набыла прадукцыя прадпры-



Беларусь у міжнароднай супольнасці

емства «Белвест», створанага сумесна Віцебскай абутковай фабрыкай і германскай фірмай «Саламандэр», і інш. Сувязі з замежнымі партнёрамі ўстанавілі аб'яднанні «БелаўтаМАЗ», «Мінскі трактарны завод», «Палімір», «Атлант» і інш. Аднак шырокага і раўнапраўнага эканамічнага супрацоўніцтва Беларусі з заходнімі краінамі не склалася па прычыне нізкай канкурэнтаздольнасці большасці беларускіх тавараў, а таксама з-за імкнення замежных прадпрымальнікаў вывозіць

з рэспублікі пераважна сыравіну і прадукты харчавання, а не прамысловыя тавары.

Значна павялічылася колькасць сумесных і замежных прадпрыемстваў у нашай рэспубліцы. Калі ў 1992 г. у Беларусі было зарэгістравана 201 сумеснае і 8 замежных прадпрыемстваў, то праз 8 гадоў — адпаведна 1816 і 1332. У пачатку XXI ст. доля прадукцыі, якая выпрацоўвалася прадпрыемствамі з удзелам замежнага капіталу, склала каля 10 % выпрабленай у рэспубліцы прадукцыі. Найбуйнейшымі краінамі, якія ўкладвалі свае капіталы ў Беларусі, з'яўляліся Нідэрланды, Германія, ЗША. Падтрымку Беларусі аказваў Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця. Аднак наша краіна ва ўмовах паступовага пераходу да стабілізацыі эканомікі пакуль яшчэ не з'яўляецца дастаткова прывабнай для ўкладвання замежнага капіталу.

У такіх абставінах асаблівае значэнне набыла праблема больш эфектыўнага выкарыстання традыцыйных рынкаў збыту ў Расіі і краінах СНД. З распадам СССР беларускія прадпрыемствы страцілі крыніцу неабходнай для іх сыравіны і рынкі збыту сваёй прадукцыі. Па гэтай прычыне яе сабекошт значна павялічыўся, што прывяло да скарачэння прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці. Наша краіна стала праводзіць курс на ўмацаванне эканамічнага ўзаемадзеяння краін СНД. У 1995 г. быў падпісаны дагавор з Расіяй «Аб мытным саюзе», які скасаваў падаткі пры імпарце (увозе) і экспарце (вывазе) тавараў. Рэальным дасягненнем у гэтым пытанні стала падпісанае ў 1996 г. пагадненне аб больш цесным эканамічным супрацоўніцтве. На мяжы стагоддзяў доля краін СНД у агульным аб'ёме знешняга гандлю рэспублікі складала каля 70 %.

**Вызначым асноўнае ў змесце параграфа.** Суверэнная Рэспубліка Беларусь вызначылася з асноўнымі прынцыпамі сваёй знешняй палітыкі. Яна імкнецца стаць бяз'ядзернай зонай і нейтральнай дзяржавай. Ва ўмовах пераходу ад двухполюснага да шматполюснага свету Рэспубліка Беларусь замацавала свой суверэнітэт. Прыярытэтным кірункам у знешняй палітыцы нашай дзяржавы на мяжы тысячагоддзяў стала ўмацаванне сувязей з Расіяй і гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва ў межах СНД. Шлях яднання братніх

беларускага і рускага народаў і ўтварэння Саюзнай дзяржавы паміж Беларуссю і Расіяй аказаўся няпростым. Праблемы, якія існуюць у адносінах Беларусі з краінамі СНД і Еўропы, сведчаць пра тое, што наша рэспубліка пакуль яшчэ не ў поўным аб'ёме інтэгравалася ў сістэму новых міжнародных адносін. Захоўваецца залежнасць рэспублікі ад імпартных паставак, найперш сыравіны і высокатэхналагічнай прадукцыі. Актуальнай застаецца праблема шырокага прыцягнення ў эканоміку краіны замежнага капіталу.

**Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:** *нейтральная дзяржава, глабалізацыя.*

## ДАДАТКОВЫ МАТЭРЫЯЛ

**** З перадвыбарнай праграмы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі. Верасень 2001 г.**

«Нашы перспектывы ў свеце

Беларусь — у цэнтры Еўропы, і яна будзе жыць у адзінай Еўропе, у міры і згодзе з усімі суседзямі.

Знешняя палітыка беларускай дзяржавы будзе заснавана на прынцыпах шматвектарнасці і захавання нормаў міжнароднага права.

Саюзныя адносіны з братняй Расіяй — асноўны прыярытэт знешнепалітычнай дзейнасці кіраўніцтва Беларусі.

Мы будзем будаваць самыя трывалыя адносіны з нашымі суседзямі і краінамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Адначасова мы адкрыты для ўсебаковага і раўнапраўнага супрацоўніцтва з усімі дзяржавамі свету. Нам важна і выгадна выкарыстоўваць каштоўны вопыт і дапамогу ААН, Еўрасаюза, Міжнароднага валютнага фонду, Сусветнага банка, Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця і іншых міжнародных арганізацый і аб'яднанняў.

Але будаваць свае адносіны з усімі дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі мы будзем толькі зыходзячы з нацыянальных інтарэсаў, на аснове роўнасці і ўзаемнай павагі».

*Вызначце, чаму Рэспубліка Беларусь прытрымліваецца шматвектарнага знешнепалітычнага курсу.*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Дайце азначэнні наступных паняццяў: *нейтральная дзяржава, глабалізацыя.*
2. Пералічыце асноўныя прынцыпы знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь.
3. Як развіваліся знешнеэканамічныя сувязі Беларусі ў 1990-х гг. — пачатку XXI ст.? Выкарыстайце картасхему на с. 158 вучэбнага дапаможніка.
4. Растлумачце, чаму з афармленнем дзяржаўнага суверэнітэту Рэспубліка Беларусь павінна была вызначыць свой знешнепалітычны курс.
5. Які кірунак і чаму з'яўляецца прыярытэтным у знешняй палітыцы Рэспублікі Беларусь?
6. Пералічыце этапы ў развіцці інтэграцыйнага працэсу ва ўзаемаадносінах паміж Беларуссю і Расіяй.
7. Назавіце прычыны і вынікі развіцця гандлёва-эканамічных сувязей Беларусі з краінамі СНД. Растлумачце, чаму вядучым партнёрам Беларусі ў гандлёва-эканамічнай сферы стала Расія.
8. Раскрыйце прычынна-выніковую сувязь паміж наступнымі падзеямі: чарнобыльская катастрофа → прыняцце «Парадку дня на XXI стагоддзе».
9. Дакажыце, што Рэспубліка Беларусь з'яўляецца бяз'ядзернай і нейтральнай дзяржавай.
10. Дакажыце, што знешняя палітыка Рэспублікі Беларусь мае шматвектарны характар.
11. Вызначце, якую ролю адыгрывае Рэспубліка Беларусь у дзейнасці ААН ва ўмовах пераходу ад двухполюснага да шматполюснага свету. Выкарыстайце вытрымкі з прамоў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі на пасяджэннях сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у 1995 і 2005 гг.

# § 25—26. Развіццё культуры ў Рэспубліцы Беларусь

ВУЧЭБНАЯ ЗАДАЧА

*Вызначыць, у чым заключаецца адраджэнне культурна-гістарычнай спадчыны ў нашай краіне на мяжы XX і XXI стст.*

**Успомніце**

Якое месца займала нацыянальная тэматыка ў творах беларускай літаратуры і мастацтва ў 1970—1980-я гг.?

**Вырашэнне моўнага пытання ў Рэспубліцы Беларусь.** Набыццё нашай рэспублікай дзяржаўнага суверэнітэту абумовіла новы этап у развіцці нацыянальнай культуры. Яго асаблівасцю стала вяртанне нашага народа да сваіх гістарычных каранёў. Змяненні ў культурным жыцці рэспублікі пачаліся яшчэ ў гады перабудовы. Важнае значэнне ў нацыянальна-культурным адраджэнні Беларусі мела стварэнне спрыяльных умоў для развіцця беларускай мовы. Яшчэ ў 1989 г. было ўтворана Таварыства беларускай мовы (ТБМ). У 1990 г. Вярхоўны Савет прыняў Закон «Аб мовах у Беларускай ССР». Ён абвясціў беларускую мову дзяржаўнай. У Законе прадугледжвалася права свабоднага карыстання рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін, свабоднае развіццё і ўжыванне іншых нацыянальных моў.

Прыняцце ў 1994 г. Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь заканадаўча замацавала дзяржаўны статус беларускай мовы. У пачатку 1990-х гг. многія школы і некаторыя вышэйшыя навучальныя ўстановы перайшлі на беларускую мову навучання па асобных прадметах. Беларуская мова пачала ўжывацца ў дзяржаўным справаводстве.

Паскоранае выкананне Закона «Аб мовах у Беларускай ССР» прывяло да незадаволенасці пэўнай часткі насельніцтва. Таму па ініцыятыве Прэзідэнта на рэспубліканскі рэферэндум 14 мая 1995 г. было вынесена пытанне аб статусе рускай мовы ў Беларусі. Большасць насельніцтва выказалася за наданне роўных правоў беларускай і рускай мовам. Палажэнне аб існаванні дзвюх раўнапраўных дзяржаўных моў у рэспубліцы было замацавана ў новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прынятай на рэспубліканскім рэферэндуме 24 лістапада 1996 г.

**Адукацыя.** У 1991 г. Вярхоўны Савет прыняў Закон «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь». У ім адзначаецца, што кожнаму грамадзяніну гарантуецца магчымасць атрымання адукацыі, якая адпавядала б яго патрабаванням і здольнасцям. Агульная базавая адукацыя з'яўляецца абавязковай у нашай краіне. Распачалася рэформа адукацыі, звязаная з пераходам агульнаадукацыйнай школы на 12-гадовы тэрмін навучання.

У 1999 г. Урадам Беларусі прынята Праграма развіцця нацыянальнай сістэмы адукацыі да 2010 г. У адпаведнасці з ёй ў 2002 г. уступіў у сілу Закон «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь „Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь"». Завяршаецца пераход базавай школы на 10-гадовы тэрмін абавязковага навучання. Яе выпускнікі змогуць без абмежаванняў прадоўжыць вучобу на апошняй ступені агульнаадукацыйнай школы — у ліцэях, прафесійных ліцэях і прафесійна-тэхнічных каледжах, ліцэях пры ВНУ, а таксама ў тэхнікумах. Любы з гэтых варыянтаў дае права на прадаўжэнне адукацыі ў ВНУ. У 2006 г. быў прыняты Закон «Аб агульнай сярэдняй адукацыі». Завяршаецца распрацоўка Закона Рэспублікі Беларусь «Аб вышэйшай адукацыі».

У рэспубліцы ў 2005/06 навучальным годзе працавала 230 устаноў, якія забяспечвалі атрыманне прафесійнай тэхнічнай адукацыі, сістэма сярэдняй спецыяльнай адукацыі ўключала звыш 200 навучальных устаноў.

У вышэйшай школе паступова ўводзіцца двухступеньчатая падрыхтоўка спецыялістаў. Першая ступень забяспечвае

ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

У 2005/06 навучальным годзе ў Беларусі вучэбную і навуковую працу праводзілі 44 дзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы. Сярод іх 31 універсітэт, 7 акадэмій, 2 інстытуты, 4 вышэйшыя каледжы. Дзейнічала таксама 10 недзяржаўных навучальных устаноў. Агульная колькасць студэнтаў склала 385 тыс. чалавек. Наша краіна дасягнула высокіх паказчыкаў па пісьменнасці сярод дарослага насельніцтва (99,8 %). Узровень развіцця адукацыі ў краіне дазволіў дасягнуць значных вынікаў у атрыманні моладдзю вышэйшай адукацыі.

падрыхтоўку дыпламаванага спецыяліста па профілю навучання і атрыманне вышэйшай адукацыі. Другая ступень вышэйшай адукацыі (магістратура) арыентавана на падрыхтоўку да навуковай і навукова-педагагічнай дзейнасці. Дзяржаўная палітыка ў галіне адукацыі будуецца на некалькіх асноўных прынцыпах: дзяржаўнае фінансаванне ўстаноў усіх узроўняў, дзяржаўная сацыяльная падтрымка навучэнцаў, студэнтаў, настаўнікаў і педагагічных работнікаў, забеспячэнне роўных магчымасцей у атрыманні адукацыі ўсімі грамадзянамі.

У 2006 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, якая ўяўляе сабой найбуйнейшы інфармацыйны і культурны цэнтр. Яна з'яўляецца часткай інтэлектуальнага скарбу нашай планеты і своеасаблівым сімвалам сучаснай Беларусі (**1).

**Развіццё беларускай навукі.** Стабілізацыя сацыяльна-эканамічнага становішча ў нашай краіне з сярэдзіны 1990-х гг. пачала аказваць станоўчы ўплыў на навуку. Палепшылася дзяржаўная сістэма кіравання гэтай галіной, створана сістэма падрыхтоўкі навуковых і навукова-педагагічных кадраў. Асаблівая ўвага ў апошнія гады надаецца распрацоўцы прыярытэтных навуковых кірункаў, якія садзейнічаюць развіццю навукова-тэхнічнага прагрэсу. Для гэтага ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі арганізаваны інстытуты: хіміі новых матэрыялаў, малекулярнай і атамнай фізікі, Аб'яднаны інстытут праблем інфарматыкі і інш. Вучоныя нашай рэспублікі ажыццявілі шмат важных навуковых даследаванняў практычна ва ўсіх галінах ведаў. У 2000 г. лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па фізіцы стаў ураджэнец Беларусі Ж. І. Алфёраў. Яго вынаходніцтвы ў галіне сучасных інфармацыйных тэхналогій, у прыватнасці, вынаходжанне хуткіх транзістараў, лазерных дыёдаў, інтэгральных мікрасхем-«чыпаў», дазволілі зрабіць звычайнымі такія рэчы, як прайгравальнік кампакт-дыскаў, пульт дыстанцыйнага кіравання, сонечныя батарэі, мабільныя тэлефоны. Алфёраў узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны, стаў ганаровым грамадзянінам г. Віцебска.



*Ж. І. Алфёраў*

У сусветны рэйтынг самых высокапрадукцыйных камп'ютэрных сістэм уключаны суперкамп'ютэр «СКІФ», створаны ў выніку беларуска-расійскага партнёрства ў галіне высокіх тэхналогій. У 2005 г. падпісаны Дэкрэт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб стварэнні Парка высокіх тэхналогій. Ён прызначаны для развіцця беларускай навукі, укаранення інфармацыйных тэхналогій у прамысловасць, а таксама для экспарту праграмнага забеспячэння за межы рэспублікі. У рэспубліцы распрацаваны беларускі касмічны апарат «БелКА» — малы спадарожнік, у стварэнні якога ўдзельнічалі сотні прадпрыемстваў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Культурную і навуковую каштоўнасць маюць даследаванні вучоных-гуманітарыяў. Сярод іх — «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» (у 6 тамах), «Вялікае княства Літоўскае», «Гісторыя беларускага мастацтва» (у 6 тамах), біябібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі» (у 6 тамах) і інш.

Нацыянальна-культурнаму адраджэнню ў суверэннай Беларусі ў значнай меры спрыяе вяртанне незаслужана забытых або забароненых імён дзеячаў навукі і культуры. Адноўлены ў памяці народа прозвішчы выдатных беларускіх вучоных-гісторыкаў: В. Ю. Ластоўскага, які ў 1910 г. выдаў упершыню на беларускай мове «Кароткую гісторыю Беларусі»; У. М. Ігнатоўскага, аўтара «Кароткага нарыса гісторыі Беларусі»; М. В. Доўнар-Запольскага, чыя «Гісторыя Беларусі», падрыхтаваная яшчэ ў 1920-я гг., выдадзена толькі ў наш час.

**Новы этап у развіцці беларускай літаратуры.** На мяжы стагоддзяў беларускія пісьменнікі імкнуцца ўносіць свой уклад у асэнсаванне ўсіх тых працэсаў, якія адбываюцца ў беларускім грамадстве. Шлях да новай літаратуры, якая стала служыць усяму беларускаму грамадству, а не адной партыі, як гэта было раней, звязаны з асэнсаваннем новых тэм. Сярод іх — беларуская нацыянальная ідэя. Яна грунтуецца на прызнанні самабытнасці беларускай нацыі, яе адвечным імкненні да свабоды, справядлівасці, набыцці ўласнай дзяржаўнасці. Сучасная беларуская літаратура знаходзіцца ў пошуку адказу на пытанні: хто мы? Што мы за нацыя — беларусы? Адкуль і куды ідзем? Што нас чакае ў будучыні? Своеасаблівай спробай адказу стала пасмяротная кніга паэзіі розных гадоў П. Панчанкі «Зямля ў мяне адна», вершы Н. Гілевіча, якія выйшлі асобнай кніжкай пад назвай «Незалежнасць».



*Дзень беларускага пісьменства. Тураў. 2004 г.*

У літаратуры з'явіліся тэмы, прысвечаныя культурна-гістарычнай спадчыне беларускага народа. Шэраг пісьменнікаў звярнуўся да слаўнага мінулага Бацькаўшчыны. Сярод іх Л. Дайнека. Яго раманы «Меч князя Вячкі», «След ваўкалака», «Жалезныя жалуды» прысвечаны першаму дзяржаўнаму ўтварэнню ўсходніх славян на тэрыторыі Беларусі — Полацкаму княству і перыяду фарміравання Вялікага княства Літоўскага.

Беларускіх пісьменнікаў цікавяць пачуцці сучаснага чалавека, які апынуўся ў складаных жыццёвых умовах. Гэтай тэматыцы прысвечаны творы М. Чаргінца. У яго рамане «Вам — заданне» паказана небяспечная служба работнікаў міліцыі ў Вялікую Айчынную вайну і ў мірны час. У раманах «Тайны Чорных Гор» і «Сыны» адлюстраваны паводзіны салдат у час вайны ў Афганістане.

Як і раней, у беларускай літаратуры прысутнічае тэма вясковага жыцця. І. Чыгрынаў раманамі «Вяртанне да віны» і «Не ўсе мы згінем» завяршыў пенталогію — эпічнае палатно пра вёску Верамейкі і верамейкаўцаў, іх жыццё і змаганне ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Жыццё людзей у забруджаных раёнах Беларусі пасля чарнобыльскай катастрофы асэнсоўваюцца ў паэме С. Законнікава «Чорная быль». Пытанні выратавання насельніцтва пацярпелых ад аварыі тэрыторый і аказання гуманітарнай дапамогі Беларусі звязаны ў творы з вырашэннем глабальнай экалагічнай праблемы.

**Выяўленчае мастацтва.** Мяжа стагоддзяў вызначылася зваротам беларускага мастацтва да агульначалавечых

і нацыянальных каштоўнасцей. Значная частка мастакоў адлюстроўвае ў сваёй творчасці гістарычныя падзеі, якія падаюцца ў нацыянальна-рамантычным выглядзе. Галерэя партрэтаў Радзівілаў, замалёўкі архітэктурных помнікаў Нясвіжа былі зроблены У. Стальмашонкам.



*Габелен стагоддзя. Фрагмент. Мастак А. Кішчанка. 1995 г.*

Кембрыджскім дыпломам «За творчыя дасягненні ў XX стагоддзі» адзначана творчасць мастака М. Селешчука — лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Яго палатно «Вяртанне на радзіму», таксама як і Л. Шчамялёва «Зіма ў Навагрудку», «Лета ў Астрашыцкім», прасякнуты любоўю да роднага краю, да свайго народа.

Міжнародны біяграфічны цэнтр (Кембрыдж, Англія) узнагародзіў медалём «Чалавек года» ў 1992, 1996 гг. народнага мастака Беларусі Г. Вашчанку — аўтара цыкла партрэтаў дзеячаў беларускай культуры, трыпціха, прысвечанага К. Каліноўскаму, стваральніка вітражоў у касцёле святых Сымона і Алены. На тэму Чарнобыля ім створана палатно «Мой дом — мой боль» і інш.

Мастак А. Кішчанка ў 1995 г. зрабіў габелен «Чарнобыль», які знаходзіцца ў будынку ААН у Нью-Йорку, а таксама «Габелен стагоддзя» (**2).

**Тэатральнае і музычнае жыццё.** Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы стаў адным з цэнтраў нацыянальна-культурнага адраджэння. Сярод тэатральных пастановак, прысвечаных гістарычнай тэматыцы, вызначаецца спектакль «Князь Вітаўт» А. Дударава. Быў пастаўлены таксама спектакль паводле гістарычнай драмы І. Чыгрынава «Звон — не малітва», у цэнтры якога — лёс полацкай князёўны Рагнеды. Лёс іншай жанчыны — Барбары Радзівіл — паказаны ў спектаклі «Чорная панна Нясвіжа» А. Дударава. Падзеям калектывізацыі прысвечана п'еса У. Бутрамеева «Страсці па Аўдзею». Рэжысёр М. Пінігін стварыў спектакль «Тутэйшыя» паводле твора Я. Купалы. У ім адлюстраваны складаныя для бе-



*Сцэна з балета «Страсці» («Рагнеда») А. Мдывані*

ларускага народа падзеі 1918—1920 гг., калі германская акупацыя змянілася польскай.

Значнай з'явай у тэатральным жыцці нашай краіны стаў спектакль «Раскіданае гняздо» паводле п'есы Я. Купалы на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага. У спектаклі выяўляюцца розныя бакі беларускага характару: цярплівасць, сардэчнасць, мяккасць, з аднаго боку, і рашучае жаданне «людзьмі звацца» — з другога.

У Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача пастаўлены спектакль А. Дударава «Палачанка». Для гэтага тэатра ім была створана сцэнічная варыяцыя паводле паэмы М. Гусоўскага «Песня пра зубра».

На сцэне Тэатра оперы і балета была пастаўлена опера кампазітара У. Солтана «Дзікае паляванне караля Стаха» паводле твора У. Караткевіча. Гістарычнаму мінуламу беларускага народа прысвечаны балет «Страсці» («Рагнеда») А. Мдывані, пастаўлены ў 1995 г. В. Елізар'евым. Спектакль прызнаны лепшай балетнай пастаноўкай свету ў 1996 г.

Вялікі ўклад у развіццё беларускага тэатральнага мастацтва ўнеслі рэжысёры В. Раеўскі, Б. Луцэнка, акцёры С. Станюта, М. Яроменка, Р. Янкоўскі і інш.

Інтэнсіўна развіваецца музычнае мастацтва. Працуюць калектывы і салісты Белдзяржфілармоніі, нацыянальных акадэмічных тэатраў оперы і балета Рэспублікі Беларусь, Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра.

Шырокую вядомасць набыў Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам М. Фінберга. У ім працуюць лепшыя музыканты рэспублікі. Галоўны кірунак творчасці калектыву звязаны з адраджэннем музычнай спадчыны і папулярызацыяй беларускай музыкі (**3).

Неад'емная частка музычнага жыцця рэспублікі — фестывалі нацыянальнага музычнага мастацтва. Стаў традыцыйным фестываль беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне. Набылі папулярнасць Міжнародны музычны фестываль «Славянскі базар»

у Віцебску, Міжнародны фестываль духоўнай (хрысціянскай) музыкі «Магутны Божа» ў Магілёве.

**Беларускае кіно.** У апошняе дзесяцігоддзе XX ст. створаны цыкл гісторыка-культурных дакументальных кінафільмаў. Сярод іх — «Ягайла і Вітаўт» (аб'яднаны ў карціну «Пастка для зубра»), «Сымон Будны. Паэма», «Сімяон Полацкі», «Крыж Ефрасінні Полацкай». Майстры дакументальнага кіно звярталіся да асвятлення дзейнасці К. Каліноўскага («Ліст да нашчадкаў» і «Жыві ў свабодзе»), І. Буйніцкага («Сцежка, сцежачка, дарога»), М. Шагала («Засталася душа яго тут»), Я. Купалы («Знойдзеш бацькаўшчыну блізка»). У шэрагу дакументальных стужак знайшла адлюстраванне чарнобыльская тэматыка. Тэлефільм «Імгненні радасці» распавядае пра хворых дзяцей, што знаходзяцца ў бальніцы пасля чарнобыльскай аварыі.

Падзеі Вялікай Айчыннай вайны сталі асноўнай тэмай у творчасці беларускага кінарэжысёра Міхаіла Пташука. Ім зняты кінастужкі паводле твораў І. Шамякіна. Значны поспех мела кінастужка «У жніўні 44-га...», створаная беларускімі і расійскімі кінематаграфістамі. У жанры легенды вырашаны гісторыка-прыгодніцкі фільм «Анастасія Слуцкая» рэжысёра Ю. Ялхова пра абарону Слуцка ад ардынцаў у XVI ст.

**Ушанаванне гістарычных асоб і дзеячаў культуры.** Паводле праектаў беларускіх скульптараў былі ўстаноўлены помнікі Кірылу Тураўскаму ў старажытным Тураве, Ф. Скарыне ў Лідзе і на яго радзіме ў Полацку, С. Буднаму ў Нясвіжы, А. Міцкевічу ў Навагрудку і Мінску. У апошнія гады ўзведзены помнікі Рагнедзе і Ізяславу ў Заслаўі, Ефрасінні Полацкай у Полацку і капліца ў яе памяць у Рэчыцы, пісьменніку першай паловы XIX ст. Я. Баршчэўскаму ў вёсцы Мурагі Расонскага раёна Віцебскай вобласці, аўтару акварэльных замалёвак Н. Ордзе ў г. Іванаве Брэсцкай вобласці, мастаку Я. Драздовічу ў Мінску; аўтару паланеза «Развітанне з Радзімай» Міхалу Клеафасу Агінскаму ў г. Маладзечне Мінскай вобласці. З'явіўся першы ў рэспубліцы помнік вучонаму-гісторыку М. В. Доўнар-Запольскаму на яго радзіме ў Рэчыцы; помнік М. Шагалу ў Віцебску, У. Караткевічу ў Оршы. На ўзор заходнееўрапейскіх універсітэтаў дворык Беларускага дзяржаўнага універсітэта ўпрыгожылі скульптуры славутых асветнікаў Ефрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага,

аўтара паэмы «Песня пра зубра» М. Гусоўскага, першадрукара Ф. Скарыны, асветнікаў С. Буднага і В. Цяпінскага.

Па рашэнні ЮНЕСКА Мірскі замкава-паркавы комплекс і архітэктурна-культурны комплекс былой рэзідэнцыі Радзівілаў у Нясвіжы ўнесены ў спіс Сусветнай спадчыны.

**Дасягненні беларускага спорту.** Вынікі выступленняў на міжнародных спаборніцтвах беларускіх спартсменаў сведчаць аб дасягненнях нашай краіны ў развіцці фізічнай культуры. Упершыню суверэнная Рэспубліка Беларусь была прадстаўлена самастойнай нацыянальнай камандай на XXVI Алімпійскіх гульнях у 1996 г. Залатыя медалі тады заваявала К. Хадатовіч (акадэмічнае веславанне, байдарка-адзіночка). Яна была таксама прызёрам яшчэ трох Алімпійскіх гульняў, лепшай спартсменкай Беларусі ў 1996 і 1999 гг. Бронзавым прызёрам па спартыўнай гімнастыцы на XXVI Алімпійскіх гульнях стаў В. Шчэрба — пераможца папярэдняй Алімпіяды 1992 г. у Барселоне па пяці відах праграмы і ў камандным заліку, 14-разовы чэмпіён свету, лепшы спартсмен свету ў 1991—2000 гг. Шчэрба як уладальнік шасці залатых медалёў, заваяваных на адной алімпіядзе (1992 г., г. Барселона, Іспанія), занесены ў Кнігу рэкордаў Гінеса. У 2001 г. ордэнам Айчыны 2-й ступені ўзнагароджаны І. Іванкоў — неаднаразовы пераможца міжнародных спаборніцтваў па спартыўнай гімнастыцы, абсалютны чэмпіён свету ў 1994, 1997 гг., абсалютны чэмпіён Беларусі ў 1993—2000 гг.

У 2001 г. лепшай спартсменкай Беларусі была прызнана Я. Карольчык — чэмпіёнка XXVII Алімпійскіх гульняў па штурханні ядра. На XXVIII Алімпійскіх гульнях у 2004 г. беларускія атлеты заваявалі 15 медалёў. Сярод іх — залаты медаль Ю. Несцярэнкі ў бегу на 100 м.

**Вызначым асноўнае ў змесце параграфа.** Пераход агульнаадукацыйнай школы на 12-гадовы тэрмін навучання, а вышэйшых навучальных устаноў на двухступеньчатую сістэму падрыхтоўкі спецыялістаў забяспечвае патрэбы рэспублікі ў адукаваных кадрах. Створаная ўстойлівая сістэма развіцця адукацыі і навукі з'яўляецца падмуркам сацыяльна-эканамічнага, навукова-тэхнічнага і культурнага развіцця нашай краіны ва ўмовах паступовага станаўлення інфармацыйнага грамадства.

Пачаты складаны шлях адраджэння беларускай мовы, якая мае статус дзяржаўнай разам з рускай. Вызначальнай рысай

у развіцці мастацтва стала нацыянальна-культурнае адраджэнне. Адлюстраванне ў беларускай літаратуры і мастацтве гістарычнай тэматыкі садзейнічае асэнсаванню сучаснасці ў спалучэнні з традыцыямі гістарычнага мінулага, выхаванню нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Мы — нашчадкі культурна-гістарычнай спадчыны сваіх продкаў. Яе веданне дазваляе нам лічыць сябе беларусамі, ганарыцца нашым мінулым і будаваць сваю будучыню.

## ДАДАТКОВЫ МАТЭРЫЯЛ

**Культурна-гістарычнае асяроддзе**

****1.** Будынак Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі ўяўляе сабой сапраўдны Храм кнігі. Пачынаецца ён са своеасаблівых «крылаў» — двух вялікіх рэльефаў, якія ўсталяваны па абодва бакі ад галоўнага ўваходу. Разам з шасціметровым помнікам Ф. Скарыне яны складаюць адзіны кампазіцыйны ансамбль. На крылах — заклік беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара «Каб быў дасканалы Божы чалавек», які прыведзены на 18 мовах, скарынаўскія выявы Сонца і Месяца, выказванні выдатных філосафаў і асветнікаў Беларусі, у тым ліку радкі Ф. Багушэвіча «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!». Фігуратыўныя рэльефы ўнутры будынка адлюстроўваюць гістарычныя сюжэты. Сярод іх — рэльеф «Сказ аб Нясвіжы», які расказвае пра паходжанне гэтага старажытнага горада, сімвалізуе яго ўладароў Радзівілаў, увасабляе вобразы С. Буднага і яго мецэната



*Будынак Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі*

Мікалая Радзівіла Чорнага. Інтэр'ер бібліятэкі аздабляюць творы мастацтва. Гэта кампазіцыя мастака Г. Вашчанкі «Айчына», якая складаецца з чатырох частак, што адлюстроўваюць рамантычны Мірскі замак, гатычную Сынковіцкую царкву-крэпасць, барочны Сафійскі сабор у Полацку, класічны палацава-паркавы ансамбль Румянцавых-Паскевічаў у Гомелі. На карціне мастака Л. Шчамялёва «Музычны Віцебск» прадстаўлены горад, які набыў у сучаснай Беларусі статус другой культурнай сталіцы. Мастак М. Данцыг намаляваў для бібліятэкі палатно «Мінск. XXI стагоддзе», у якім уключыў у гарадскі пейзаж сам будынак бібліятэкі. Увагу чытачоў бібліятэкі прыцягваюць асобы, адлюстраваныя на роспісах, прысвечаных абласцям нашай краіны і яе сталіцы. Брэстчыну прадстаўляюць К. Лышчынскі, А. Міцкевіч, Н. Орда і інш.; Віцебшчыну — Ефрасіння Полацкая, Сімяон Полацкі, Я. Драздовіч і інш.; Гомельшчыну — Кірыла Тураўскі, М. Доўнар-Запольскі і інш.; Гродзеншчыну — І. Фёдараў, Цётка і інш.; Магілёўшчыну — П. Мсціславец, У. Сыракомля, В. Дунін-Марцінкевіч і інш.; Міншчыну — С. Будны, Я. Купала, Я. Колас і інш.; Мінск — М. Гусоўскі, В. Ваньковіч, С. Манюшка, Ф. Багушэвіч, М. Багдановіч і інш.

*Вызначце, чаму Нацыянальная бібліятэка з'яўляецца своеасаблівым сімвалам Беларусі.*

****2.** Статус гісторыка-культурнай спадчыны прысвоены «Габелену стагоддзя», аўтарам якога з'яўляецца мастак А. Кішчанка. На габелене адлюстраваны больш за 80 вядомых палітыкаў і дзеячаў культуры XX стагоддзя. Габелен быў уручную вытканы на Барысаўскім камбінаце прыкладнога мастацтва. Яго плошча складае 266 м$^2$, а вага — 286 кг. Габелен унесены ў Кнігу рэкордаў Гінеса.

*Успомніце, якую традыцыю XVIII ст. працягвае вытворчасць габеленаў.*

****3.** У 2002 г. па выніках праведзенага конкурсу Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь быў зацверджаны Дзяржаўны гімн нашай рэспублікі. Аўтарам музычнай рэдакцыі за-

стаўся кампазітар Н. Сакалоўскі — адзін з аўтараў Дзяржаўнага гімна БССР, што існаваў з 1955 г. Тэкст гімна на словы М. Клімковіча быў дапрацаваны У. Карызнам. Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь уяўляе сабой музычна-паэтычны твор, які заклікае да аб'яднання ўсіх жыхароў нашай краіны, чый агульны дом — Рэспубліка Беларусь.

*Успомніце словы Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь.*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Пералічыце творы літаратуры і мастацтва, якія сведчаць аб адраджэнні культурна-гістарычнай спадчыны.
2. Раскажыце, якія змены адбываюцца ў галіне адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь. Як вы адносіцеся да рэформы сучаснай школьнай адукацыі?
3. Раскажыце аб школьных прадметах у вашай навучальнай установе, вывучэнне якіх звязана са зваротам да культурна-гістарычнай спадчыны нашага народа.
4. Складзіце табліцу «Культурна-гістарычная спадчына Беларусі ў творах літаратуры і мастацтва»:

| Літаратура | Жывапіс | Тэатр | Балет | Кіно |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

5. Раскажыце, якім гістарычным асобам і дзеячам культуры ўстаноўлены помнікі ў Беларусі, у тым ліку ў вашай мясцовасці. Выкарыстайце картасхему на с. 142.
6. У выніку якіх падзей у нашай рэспубліцы ўведзена двухмоўе?
7. Чаму дзеячы культуры так часта звяртаюцца ў сваёй творчасці да тэмы Чарнобыля?
8. Якім падзеям прысвечаны дакументальныя кінафільмы, створаныя ў 1990-я гг.?
9. Раскажыце аб дасягненнях беларускіх спартсменаў.
10. Як бы вы адказалі на пытанні, што ставяць дзеячы нацыянальнай культуры ў сваіх творах: хто мы? Што мы за нацыя — беларусы? Адкуль і куды ідзем? Што нас чакае ў будучым?

